Przesyłka opłacona ryczałtem



Nr 1 | Серада, 3-га Лютага 1926 г. м. Вільня | Год I

# БЕЛАРУСКАЕ СЛОВА



Выходзіць раз у тыдзень | Цана нумару 20 грош.

**Нацыянальнае адраджэньне.—Тэрыторыяльная культурна-нацыянальная аутаномія.—Зямля сялянам на падставе уласнасьці. — Шырокі дэмократызм. — Барацьба з комунізмам. — Нацыянальная царква. — Краёвая згода. — Далучэньне Усходняй Беларусі да Заходняй.**

Падпісная цана на 1 месяц 1 зл.
„ „ „ 3 „ 2 зл. 50 гр.
Заграніцу ўдвая даражэй.

Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі: Wilno, ul. Niemiecka 1 Hotel „Sokołowski“ pokój Nr 23. Рэдакцыя адчынена ад 12 — 2 гадз. штодня апрача сьвятаў.

Цана абвестак: перад тэкстам — 20 гр. сярод тэксту — 25 гр. і на апошняй стр.—15 гр. за радок.

## НАШАЯ ПРАГРАМА.

Пачынаючы выдаваньне новай беларускай газэты, мы згодна традыцыі, даём у першым нумары сваё палітычнае credo.

Сваю палітычную праграму мы конкрэтызуем у некалькіх галоўных тэзах.

Тэзы гэтыя адпаведаюць нашым імкненьням, якія мы праводзім у жыцьцё пачынаючы ад 1919 года.

Кожны народ толькі тады можа жыць і спакойна глядзець у сваю будучыну, калі ён нацыянальна сьвя домы. Дык галоўным пунктам нашай праграмы і зьяўляецца—*нацыянальнае адраджэньне*.

У выніку ваенных падзеяў частка беларускай зямлі апынулася ў межах Польскай Дзяржавы. Маючы тут шырока дэмократычную заходня-эўропэйскую конституцыю, мы прызнаём польскую дзяржаўнасьць. Аднак жа лічым, што беларускія землі маюць гэтулькі індывідуальных асаблівасьцяў у характары і складзе свайго насяленьня, а таксама этнаграфічных і геаграфічных, што яны павінны быць *аўтономічнымі*.

*Зямля*, шляхам шырока-дэмократычнай зямельнай рэформы, павінна перайсьці *да сялянства, на падставе зямельнай уласнасьці*, з пашырэньнем індывідуальнай гаспадаркі (хутароў).

Асадніцтва, якое крыўдзіць мясцовае сялянства і ўносіць нацыянальную рознь і варожасьць павінна быць спынена.

Константуючы аканчальна банкруцтва социялізму, як соцыяльнай ідэолёгіі, мы лічым патрэбным выступіць з ідэйным *змаганьнем соцыялістычнага вучэньня*, як нерэальнага і неадпаведнага інтарэсам сялянства. Як проціўвагу соцыялізму, мы выстаўляем — *шырокі дэмократызм*.

Не прызнаючы соцыялізму, мы з агідай адкідаем і яго лёгічнае заканчэньне — *комунізм і вядзем з ім рашучую барацьбу* ўсімі магчымымі спосабамі. Комунізм падрывае маральныя падставы жыцьця кожнага народу, дэнацыяналізуе яго, руйнуе векавую культуру і вядзе сьвет да хаосу.

Лёс падзяліў Беларусь на дзьве часткі, з якіх адна апынілася пад уладай бальшавікоў. Чуючы адтуль галасы нашых братоў, якія стогнуць пад праклятым ігам міжнароднай банды; чуючы гукі расстрэлаў, якія адтуль далятаюць да нас; атрымліваючы весткі аб раздачы нашай роднай беларускай зямелькі чужынцам; чуючы, як зьдзекуюцца бязбожнікі і інаверцы над верай нашых бацькоў; чуючы, як руйнуюцца і бэсьцяцца нашыя сьвятыні, — мы ня можам запамятаваць аб лёсе нашых братоў з Усходняй Беларусі і ўсе высілкі будзем прыкладаць да таго, каб вырваць іх з пад улады бальшавікоў і *злучыць Беларусь Усходнюю з Беларусьсю Заходняю*.

Рэлігія мае вялікае значэньне ў нацыянальным адраджэньні народу. Яшчэ вялікшае значэньне яна мае ў часе нацыянальнага заняпаду. Аднакжа рэлігія мае сілу толькі тады, калі яна шырока дэмократычная, калі паміж духавенствам і паствай няма ніякіх перагародкаў, ні клясавых, ні нацыянальных. Вось дзеля чаго кожны народ павінен мець сваю *Нацыянальную Царкву*.

Добра разумеючы, што кожны нацыянальны рух толькі тады мае шансы на пасьпех, калі ў ім прымаюць удзел шырокія народныя масы, мы аднак-жа лічым, што толькі пры прысутнасьці нацыянальнай інтэлігэнцыі, лічэбна, моральна і навукова магутнай, магчыма зьдзейсьненьне нацыянальных лятуценьняў народу. А нацыянальную інтэлігэнцыю дае шматгадовая праца, выхаваньне моладзі, усьведамленьне яе. Збудаваць незалежнасьць духа, а разам незалежнасьць нацыі можна толькі шляхам эканамічнай упартай працы, а не шляхам клясавай барацьбы і рэвалюцыі.

Дык нашая праграма, ёсьць шлях эвалюцыйны у бок паглыбленьня нацыянальнай культуры, барацьбы за родную школу, змаганьне за лепшыя варункі жыцьця сялянства, шлях тварэньня лічэбнай беларускай нацыянальнай інтэлігэнцыі. Падзел беларускіх сілаў на клясовыя, варожыя адна адной групіроўкі прынясе толькі вялікую шкоду справе нацыянальнага адраджэньня.

Толькі моцная *сувязь і салідарнасьць усіх клясаў* народу можа прывясьці яго да лепшай будучыны.

Магутная, нацыянальна мысьлячая інтэлігэнцыя, вышаўшая з народу ў сувязі з шэрай сялянскай масай будзе той вялікай сілай, якая вывядзе народ да нацыянальнага адраджэньня.

У сучасны мамэнт Дзяржава знаходзіцца ў надзвычайна цяжкіх варунках. Эканамічны крызіс, безрабоцьце, падрыўная комуністычная праца — ўнутры, экспансыўныя тэндэнцыі з боку Усходняга Суседа і нямецкая небясьпека звонку, усё гэтае ставіць Дзяржаву ў грознае палажэньне. У гэты цяжкі і адпаведны мамэнт, асабліва вялікае значэньне мае *згода* ўсіх *грамадзян Краю*.

Дык да змаганьня за нашыя нацыянальныя правы, да творчай, рэальнай працы, да агульна грамадзкай згоды, а прадусім згоды народаў Польскага і Беларускага, клічам мы усіх нашых чытачоў праз нашае „Беларускае Слова“.

## Палітычны агляд.

Агульна-эўропэйскі эканамічны крызіс адбіўся і ў Польшчы. Да апошняга часу мы адчувалі толькі крызіс фінансавы. У леташнім-жа годзе далучыўся да гэтага яшчэ і крызіс эканамічны, самым цяжкім рэзультатам якога зьяўляецца павялічэньне безрабоцьця. Апрача вонкавых прычын гэтага крызісу, ёсьць яшчэ ў нас шмат прычын і ўнутраных. Досьледам гэтых прычын ў апошні час і займаюцца палітыкі і эканамісты. Мы тут застанавіліся, галоўным чынам, на досьледах, якія рабіліся лідэрам правіцы Раманам Дмоўскім і б. міністрам фінансаў Міхальскім. Вось што піша Р. Дмоўскі аб прычынах безрабоцьця ў Польшчы.

Галоўных прычын гэтага безрабоцьця ў нас ёсьць тры:

1. Вонкавыя рынкі, на якія ішлі перад вайной польскія тавары, амаль што зусім закрыліся.

2. Эміграцыя ў Амэрыку і Нямеччыну спынілася. Толькі Францыя прымала яшчэ да гэтага часу польскіх эмігрантаў, але і яна ўжо адмаўляецца прыймаць іх да сябе.

3. Але галоўнай прычынай крызісу зьяўляецца тое, што тавары польскага вырабу ня могуць знайсьці збыту на ўнутраным рынку, з прычыны нязвычайнай дарагоўлі нашых тавараў і абядненьня насяленьня.

Дзякуючы таму, што фінансавая палітыка папярэдніх міністраў фінансаў будавалася галоўным чынам на выцягваньні падаткаў з насяленьня, апошняе ў масе гэтак абяднела, што адмаўляе сабе ўва ўсіх патрэбах, апрача хлеба. Ведама, што 60 працэнтаў насяленьня ў Польшчы складаюць сяляне. Бедната-жа ў вёсцы гэткая вялікая,—кажа Міхальскі — што яе нельга выказаць у словах“. З прычыны гэтага насяленьне ня можа купляць фабрычных тавараў.

Адзіным ратункам ад эканамічнага крызісу і безрабоцьця зьяўляецца паменшаньне дарагоўлі тавараў. На дарагоўлю тавараў маюць уплыў дзьве прычыны: дарагоўля крэдыту, як унутранага, так і вонкавага, і дарагоўля работніцкіх рук. Прамысловасьць ня можа істнаваць у гэткіх дзяржавах, як Польшча, дзе банкі бяруць за крэдыт да 72 працэнтаў у год у той час як заграніцай самы вялікі працэнт не перавышае 5 у год. У выніку гэткіх спэкулятыўных крэдытаў прамысловасьць у нас зруйнавана, збанкрутавалі нават і самыя банкі. Цяпер ужо няма да банкоў ніякага даверра і ніхто не нясе да іх свае грошы. Дзеля гэтага і няма свабодных капіталаў.

Адзіны ратунак ёсьць у вонкавай пазычцы. Але, з прычыны цяжкага эканамічнага палажэньня дзяржавы, заграмічныя капіталісты таксама ня хочуць даваць грошаў, а калі і даюць, дык за вялікія працэнты і на самых цяжкіх варунках. Яны згаджаюцца даць крэдыты толькі пад заклад розных манаполіяў. Гэтак цяпер ідуць перагаворы з амэрыканскім банкам „Bankers Trust“ аб пазычцы пад заклад самай важнай тытунёвай манаполіі, якая давала да гэтага часу найвялікшы даход дзяржаве. Гэткім чынам па частках распрадаюцца дзяржаўныя скарбы і чужаземцы становяцца ў нас гаспадарамі.

Другой прычынай дарагоўлі тавараў зьяўляецца дарагоўля работніцкіх рук. Ня гледзячы на тое, што наш работнік працуе менш чымся заграмічны, за сваю працу ён атрымлівае больш чым работнікі ў іншых дзяржавах. І ад гэтых „рэвалюцыйных заваеваньняў“ нашыя работнікі ня хочуць адмовіцца, а ўрад і капіталісты ня могуць іх перамагчы, асабліва цяпер, калі соцыялісты ўваходзяць у склад урадовай коаліцыі. Урадоўцам, вучыцелям, нават афіцэрам урад зьменшыў пэнсію і тыя як гэта не цяжка, але мусілі згадзіцца на гэта. Зусім іншая справа з работнікамі. Іх нельга прымусіць да зьмены варункаў працы, дзеля таго, што яны дбаюць толькі аб сваіх клясавых інтарэсах. На ўсе спробы ў гэтым напрамку яны зараз-жа адказваюць актыўнымі выступленьнямі і забастоўкамі. Няхай зачыніцца фабрыка, няхай збанкрутуе нрадпрыемства, няхай горад застаецца без сьвятла і вады, але работнікі не адмовяцца ад сваіх дамаганьняў. Тым больш, што кожны з іх добра ведае, што ў часе безрабоцьця будзе атрымліваць дапамогу ад дзяржавы. І вось у нас стварылася гэткае ненармальнае палажэньне, што, у той час як газэтны супрацоў-

